СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.44, 19.44, 13.00;
Віцебск — 6.32, 19.35, 13.03;
Магілёў — 6.33, 19.33, 13.00;
Гомель — 6.29, 19.31, 13.02;
Гродна — 6.56, 20.01, 13.04;
Брэст — 7.01, 19.58, 12.57.

МЕСЯЦ:
Маладзік
ІМЯНІНЫ:
Хрысанфа, Клаўдзія, Ганны, Соф'і;
Гражыны, Тадоры.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 75 кап.

1 КРАСАВІКА 1992 г.
серада, №№ 66-67
(21844—21845)

## РОЗГАЛАС

### Залаты і алмазны фонды будуць падзелены пасля 20 красавіка

**У панядзелак, 30 сакавіка, ва ўрадавай рэзідэнцыі «Заслаўе» сабраліся для кансультацыі кіраўнікі нацыянальных банкаў СНД. У выніку папярэдняй дамоўленасці ў Беларусі павінны былі сабрацца прадстаўнікі толькі 13 рэспублік былога Саюза. Але ў інтэрв'ю радыёстанцыі «Маяк» старшыня праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Станіслаў Багданкевіч адзначыў, што на нарадзе ў Заслаўі прысутнічалі прадстаўнікі ад усіх пятнаццаці рэспублік.**

Пытанне аб раздзеле фінансаў Саюза, у тым ліку залатога і алмазнага фондаў, як і чакалася, стала самым галоўным пунктам сустрэчы. Падобна, што 30 сакавіка праблема, якая датычыла раздзелу актываў і пасіваў Дзяржбанка СССР, скранулася з месца. Як заявіў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Расіі, да 20 красавіка будзе ўдакладнены ўвесь залаты і алмазны фонд Дзяржбанка (хоць там ужо няма чаго асабліва і пералічваць) і падзелены паміж рэспублікамі.

Што датычыцца выхаду з рублёвай зоны, то пакуль што ніхто з прадстаўнікоў рэспублік не выказаў жадання ўводзіць уласную нацыянальную валюту.

Трэба адзначыць, што 20 красавіка плануецца новая сустрэча кіраўнікоў нацыянальных банкаў, дзе будзе разглядацца пагадненне аб умовах і парадку ўвядзення нацыянальнай валюты.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### І Ў ГАЛАНДЫІ НЕ ЎСЁ ЁСЦЬ

*У багатых капіталістаў, як выявілася, не ўсё ёсць. Ім не хапае нашага чарназёму. Вось і адправіліся ў пошуках яго ў краіны СНД французскія бізнесмены. І як вынік — яшчэ адно сумеснае прадпрыемства — «Фларабел». Адным з яго заснавальнікаў з беларускага боку стала вытворчае торфабрыкетнае аб'яднанне «Сяргеевіцкае», што на Пухавічыне. У яго жыцці адбылася вялікая па цяперашніх часах падзея — адкрыццё валютнага рахунку ў банку.*

*Адбылося гэта дзякуючы таму, што замежныя калегі зацікавіліся звычайным торфам, які выкарыстоўваецца ў сельскай гаспадарцы для цяпліц. І калі ў нас прынята тавар у любым выглядзе з рукамі адрываць, у Францыі яго яшчэ пакупнікам трэба ўмець паказаць. Вось і зманціравалі ў аб'яднанні з дапамогай замежных кампаньёнаў спецыяльную лінію па ўпакоўцы торфу на экспарт.*

*Першая партыя прадукцыі беларускіх тарфянікаў была адпраўлена днямі ў Францыю. Думаецца, што і ў Галандыі, куды рыхтуецца для адпраўкі яшчэ адна партыя тавару, яе ацэняць.*

## Пошук узаемаразумення

**Адным з надзённых пытанняў сённяшняга дня з'яўляецца ўмацаванне ўзаемаадносін паміж вярхоўнай уладай рэспублікі і мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў. Каб палепшыць наша жыццё, знізіць рост інфляцыі, мала добрых законаў, важна, каб яны своечасова выконваліся на месцах, даходзілі да людзей. Іншы раз якраз гэтага і не хапае. Чаму? Адказ на гэта і многія іншыя пытанні далі заўчора Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч, першы намеснік Старшыні В. Кузняцоў, намеснік Старшыні В. Шаладонаў на сустрэчы з прадстаўнікамі мясцовай улады рэспублікі.**

Амаль дзве гадзіны працягвалася грунтоўная размова аб існуючых праблемах як у парламенце, так і на месцах, сітуацыі на вытворчасці, у сельскай гаспадарцы, у войску і грамадскім жыцці. І хоць адказы, магчыма, задаволілі не ўсіх, яны былі шчырымі. У прыватнасці, на пытанне, што будзе з эканомікай рэспублікі, калі Расія адпусціць цэны на нафту, сказана адназначна — сітуацыя пагоршыцца. І ў першую чаргу таму, што меры ў адказ не могуць аказацца такімі ж эфектыўнымі, як у суседзяў. Яны могуць паўплываць на сітуацыю праз нейкі час, адсюль і меншая іх дзейснасць. Многія з прысутных у зале гэта разумелі і самі, але такія словы прымусілі яшчэ раз задумацца аб тым, у які складаны час мы жывём. Час, калі патрэбны не пасіўнае сузіранне, а актыўная работа дзеля павышэння дабрабыту людзей, дзейсны ўдзел у заканадаўчай палітыцы.

На жаль, так атрымліваецца не заўсёды. І калі з залы прагучала, напрыклад, што Вярхоўны Савет пры прыняцці законаў не раіцца з мясцовымі ўладамі, В. Шаладонаў з такім папрокам не пагадзіўся. Праекты амаль усіх заканадаўчых актаў змяшчаюцца ў друку, многія з іх накіроўваюцца непасрэдна на месцы, але, на жаль, ініцыятывы знізу недастаткова. Хоць такія своеасаблівыя «падказкі» вельмі неабходны парламентарыям.

Гэта ж якраз па прапанове знізу ставілася ў парламенце, у прыватнасці, пытанне аб умацаванні мясцовай улады, яе рэарганізацыі, размежаванні функцый паміж саветамі розных узроўняў. І хоць у абмеркаванні гэтых прапаноў быў зацікаўлены сам Старшыня Вярхоўнага Савета, яны пакуль што не прайшлі. Відаць, прычына ў тым, што мясцовая ўлада нядрэнна прадстаўлена ў парламенце, а яе прадстаўнікі не імкнуцца істотна мяняць сітуацыю. Хоць у Прэзідыума, ды і ў саміх дэпутатаў ёсць шмат радыкальных прапаноў, якія патрабуюць тэрміновага вырашэння.

Не абышлі ўвагай прысутныя і такое важнае пытанне, як правядзенне сяўбы. Тут думка бакоў раздзялілася. З месц прагучала, што мясцовыя ўлады самаўхіліліся ад дапамогі ў забеспячэнні механізмамі, запчасткамі, машынамі. С. Шушкевіч лічыць, што так і павінна быць. Работнік райсавета не павінен ператварацца ў забеспячэнца. Неабходна такая сістэма, каб самі гаспадаркі маглі б зарабляць добрыя грошы і за гэтыя сродкі купляць усё неабходнае без істотных праблем. Вядома, гэта справа будучага. Пакуль жа ў Вярхоўнага Савета ёсць інфармацыя, што асаблівых праблем з веснавой сяўбой не будзе. Калгасы заявілі, што яны выкарыстаюць унутраныя рэзервы і не маюць патрэбы ў новай тэхніцы. Праблема ў тым, каб гэту тэхніку атрымалі фермеры, але, вядома, не па біржавых цэнах. Складаней сітуацыя з гаруча-змазачнымі матэрыяламі. Тут урад пайшоў на пэўныя абмежаванні рыначнага фонду, але гэта зроблена спецыяльна, каб зрабіць запасы на пэўны час. Сяўба, як вядома, важней цяперашніх праблем прыватніка. У будучым сітуацыя павінна стабілізавацца.

Шмат іншых надзённых пытанняў прагучала ў час сустрэчы. У прыватнасці, на месцах не задаволены фарміраваннем бюджэту Саветаў зверху, абмежаваннем іх самастойнасці абласнымі структурамі ўлады, ходам зямельнай рэформы, парушэннямі пры выдзяленні зямлі пад індывідуальнае і дачнае будаўніцтва, пазіцыяй асобных калгасных кіраўнікоў, якія лічаць калгасную зямлю ўласнай вотчынай.

Дарэчы, з месц гаварылася, што парламентарыі павінны актыўней змагацца з тымі, хто перашкаджае плённай працы, наладжваць больш цесныя кантакты з нізавымі звеннямі мясцовай улады, знаходзіць там паплечнікаў і аднадумцаў. Толькі разам, паступова можна падыходзіць да вырашэння актуальных пытанняў. І такая дамоўленасць, на нашу думку, на сустрэчы замацавалася. Бо кожны з прысутных, незалежна ад яго поглядаў, адносін да парламента, імкнецца зрабіць жыццё лепшым, больш стабільным. Размова з кіраўнікамі мясцовых Саветаў павінна стаць яшчэ адным пабуджальным стымулам да больш прадукцыйнай работы на карысць грамадства.

**Мікалай БАЖКО.**

### Азіяцкія «драконы» гатовы з намі рабіць бізнес

**З пакетам цікавых дамоўленасцей і прапаноў вярнулася дэлегацыя на чале з намеснікам Старшыні Саўміна М. Косцікавым, якая наведала В'етнам, Тайланд і Паўднёвую Карэю.**

Гевея — цудоўнае дрэва, якое дае сыравіну для вытворчасці каўчуку. А без каўчуку, як вядома, няма шын для аўтамабіляў. Сёння каўчук, як і многая іншая сыравіна, — страшэнны дэфіцыт. З-за яго адсутнасці з перабоямі працуюць, а то і ўвогуле прастойваюць заводы па вырабу шын у Бабруйску.

Вось чаму беларуская дэлегацыя вяла ў В'етнаме перагаворы аб пастаўках сыравіны «Бабруйскшыне». За канверсуемую валюту нас гатовы заваліць ёю, але дзе ўзяць «зялёненькія?» Таму пасля даволі няпростых перагавораў дамовіліся аб стварэнні сумеснага в'етнама-беларускага прадпрыемства па эксплуатацыі плантацый гевеі. Чаму няпростых? В'етнамскі бок прытрымліваецца прынцыповай пазіцыі: іншаземцы павінны самі ў тропіках спачатку распрацаваць джунглі, потым пасадзіць гевеі і затым чакаць, пакуль яны дадуць плады.

Але для нашай рэспублікі ўрад В'етнама зрабіў выключэнне — Беларусь будзе атрымліваць сыравіну з ужо закладзеных плантацый — 25 працэнтаў патрэбнай колькасці.

Адбылася канструктыўная і карысная гутарка нашай дэлегацыі са Старшынёй Савета Міністраў В'етнама. Кіраўнік урада выказаў зацікаўленасць у развіцці рознабаковага супрацоўніцтва з Беларуссю.

Дарэчы, у В'етнам, паводле слоў М. Косцікава, зараз ахвотна ідуць краіны Захаду, Японія, асабліва Кітай. Партнёраў вабяць вялікія сыравінныя рэсурсы В'етнама. А Беларусі ён можа пастаўляць рыс, алей, цукар, ананасы, бананы, іншыя прадукты ўзамен на нашу традыцыйную прадукцыю — МАЗы, БелАЗы, запчасткі да іх, складаную бытавую тэхніку.

У Тайландзе дэлегацыя вяла перагаворы з прадстаўнікамі дзелавых колаў аб будаўніцтве ў Салігорску прадпрыемства па перапрацоўцы адходаў шахт па японскай тэхналогіі. У выніку можна будзе атрымліваць дэфіцытную прадукцыю — кальцыніраваную соду, якая карыстаецца попытам у свеце.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

### ЗГОДНЫ НА... БАНКРУЦТВА

**Чарговае паведамленне паступіла ў рэдакцыю з «Гомсельмаша», калектыў якога, нагадаем, напаткаў вымушаны водпуск. Прафком новага прафсаюза (Канфедэрацыі працы Беларусі) ВА «Гомсельмаш» і гарадская арганізацыя Аб'яднанай дэмакратычнай партыі правялі на прадпрыемстве сход, на якім аб'явілі, што галоўная прычына спынення работы і адпаведных фінансавых цяжкасцей не ў недапастаўках металу і камплектуючых, а ў адсутнасці попыту на выпускаемыя кормаўборачныя камбайны. Арганізатары сходу паведамілі, што, згодна з той інфармацыяй, якой валодаюць, доўг калектыву складае каля мільярда рублёў. У аб'яднанні няма сродкаў, каб выплачваць зарплату, утрымліваць дзіцячыя сады і жыллёвы фонд. Усё гэта пагражае тым, што ў разрад беспрацоўных трапіць не каля 30 працэнтаў работнікаў, як мяркуецца ў заводскай праграме «Выжыванне», а 50—60.**

Арганізатары сходу прапанавалі сваю канцэпцыю рэарганізацыі аб'яднання, якую даслалі таксама ў рэдакцыю. Прычым у першым пункце гэтай канцэпцыі гаворыцца, што працоўнаму калектыву неабходна дабіцца ад Савета Міністраў, як уласніка аб'яднання, афіцыяльнага прызнання ВА «Гомсельмаш» банкрутам і спісання ўсіх яго даўгоў...

Можна поўнасцю пагадзіцца з гэтым: банкруты ўрэшце павінны быць без усялякіх агаворак названы банкрутамі. З адпаведнымі адсюль вынікамі. Няхай нават самымі суровымі. Але вось што спрэчна: разам з аб'яўленнем банкруцтва і спісаннем даўгоў «рэарганізацыя» прадугледжвае, каб надалей, ужо наваствораным прадпрыемствам, зноў дапамагла дзяржава. Атрымліваецца, пойдзем па новаму кругу? Ды і чаму не кіравацца пэўнымі, аднолькавымі для ўсіх правіламі і законамі пры ўсякіх рэарганізацыях і ператварэннях уласнасці? У любых выпадках. Дарэчы, дзяржава сама чакае дапамогі. Калі браць яе фінансавае становішча — яна па сутнасці таксама банкрут. Такое вось становішча...

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

### УЛАСНЫ САНАТОРЫЙ

У калектыўным сельскагаспадарчым прадпрыемстве «Астрамечава» Брэсцкага раёна расчынілі дзверы ўласны санаторый-прафілакторый. Пяцьдзесят працаўнікоў (сярод іх механізатары і жывёлаводы) папраўляюць сваё здароўе, не пакідаючы межы гаспадаркі.

**На здымку:** медыцынскія работнікі санаторыя-прафілакторыя Таццяна **Мілер**, Людміла **Саланенка**, Святлана **Філіпава**, Нэля **Юзгіна** і Сяргей **Псом**.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

### Як быць бяззубым?

ТАЛАЧЫН **(Т. Махтадуй).** У райцэнтры кабінеты для пратэзавання зубоў размешчаны ў старым закінутым будынку былой паліклінікі, дзе выведзена са строю каналізацыя і ацяпляльная сістэма. У зімовы час спецыялісты працавалі ў паліто і футравых шапках.

А з надыходам цёплых дзён да гэтых праблем прыбавілася яшчэ адна — адсутнасць матэрыялу для пратэзавання. Перад медыкамі навісла пагроза беспрацоўя. Парушаныя сувязі паміж рэспублікамі былога СССР не маглі не адбіцца на ахове здароўя. Па безнаяўнаму разліку Расія адмаўляецца пастаўляць многія медыцынскія прэпараты, у тым ліку і матэрыял для пратэзавання зубоў. Вось і вымушаны быў галоўны стаматолаг-пратэзіст Віктар Іванюта за свае ўласныя грошы набыць у прыехаўшых з Пецярбурга дзялкоў самае неабходнае для работы. Але купленага хопіць не больш чым на 2 месяцы.

А што далей?

### Рэдкая «зорка» даляціць да беларускай правінцыі...

Але калі даляціць, дык абыдзецца жыхарам у немалую капейку. Так, музычная «суперзорка» савецкай эстрады Валерый Ляонцьеў наведаў з гастролямі шэраг гарадоў Магілёўскай вобласці. Спявак заўсёды любіць паразмаўляць аб дабрачыннасці, але цана білетаў на яго канцэрты ўражвае нават і пры сённяшніх «скоках». Так, у Шклове білеты каштавалі ажно па 80 рублёў. Падлічыце, у колькі абыдзецца музычная асалода сям'і з чатырох чалавек, і зразумееце, што вядомы выраз — «мастацтва патрабуе ахвяр» — мае сэнс. Спецыялісты сцвярджаюць, што кошт білетаў знаходзіцца ў адваротнай прапорцыі з колькасцю месц у зале. Каб Ляонцьеў вырашыў выступіць у якім-небудзь вясковым клубе, білеты пацягнулі б не менш сотні. Так што шклоўскія 80 рублёў пакуль што будзем лічыць неперагузыдзеным рэкордам правінцыі. А рэкорд Мінска на сённяшні дзень складае 35 рублёў. Яго аўтар — Лайма Вайкуле.

### У КІНО ЗА ПАЎЦАНЫ

ВІЦЕБСК. На нядаўняй сустрэчы са студэнтамі Віцебскай вобласці ў актавай зале педінстытута старшыні абласнога Савета народных дэпутатаў У. Кулакову давялося выслухаць шмат скаргаў у сувязі з павышэннем цэн і несуразмернай з імі стыпендыяй. Ведаючы, як студэнты любяць бавіць вольны час, кіраўнік Віцебшчыны тады абвясціў, што пачне з маленькага, але патрэбнага кроку — зменшыць студэнтам напалавіну кошт білетаў на кінасеансы. І вось нарэшце гэта пастанова падпісана і ўступіла ў сілу. Улічваючы, што цана кінабілетаў у параўнанні з мінулым годам узрасла ў 4-5 разоў, студэнты могуць быць задаволены такой палёгкай для іх. Але спадзяёмся, іх чакаюць і новыя карысныя пастановы.

### БЕЛАРУСКІ КУПОН — У ЦАНЕ

У той час як курсы ўсіх валют — і цвёрдых, і сурагатных — імкліва падаюць, у Літве нечакана вырас у цане беларускі купон. У мінулую нядзелю на вільнюскім рынку за ліст коштам у 75 рублёў прасілі 150—200 руб., а за сторублёвы—ад 200 да 250 рублёў. Назіраецца тэндэнцыя далейшага росту цэн на купоны. Як лічаць кампетэнтныя рыначныя аглядальнікі, імгненнае падаражанне купонных «прасцін» наступіла за абяцаннем беларускага ўрада абмяняць аднаразовыя купоны на новыя шматразовыя па курсу 1:1 незалежна ад іх колькасці.

### ХТО-НІХТО ТАЛЕР УЖО БАЧЫЎ...

На сустрэчы кіраўнікоў нацыянальных банкаў краін былога СССР старшыня праўлення НБ Рэспублікі Беларусь зрабіў сенсацыйную заяву: аказваецца, у Мінск з брытанскага горада Ньюкасл прыбыла першая партыя талераў, выраблены адной англійскай фірмай. Станіслаў Багданкевіч паведаміў, што Беларусь не плануе ўводзіць нацыянальную валюту да канца гэтага года.

**БелаПАН.**

### ТРЫ ШАХЦЁРЫ СУПРАЦЬ... ПРЭМ'ЕРА

**Трое шахцёраў Салігорска з ліку бастуючых аб'явілі бестэрміновую галадоўку.**

Галадоўка будзе праходзіць у шахце, куды і спусціліся ўдзельнікі акцыі ў знак пратэсту ў сувязі з нежаданнем урадавай камісіі падпісаць тарыфнае пагадненне на ўмовах гарнякоў. Галадаючыя настойваюць на выкананні патрабаванняў бастуючых, а таксама выказваюцца за адстаўку прэм'ер-міністра рэспублікі і генеральнага дырэктара аб'яднання «Беларуськалій».

**«Агенцтва РІД».**

## Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

### Аб першачарговых мерах па развіццю індывідуальнага і кааператыўнага жыллёвага будаўніцтва ва ўмовах пераходу да рыначнай эканомікі

Надаючы важнае значэнне развіццю індывідуальнага і кааператыўнага жыллёвага будаўніцтва ва ўмовах пераходу да рыначнай эканомікі, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Міністэрствам, ведамствам, прадпрыемствам, аб'яднанням, арганізацыям, выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў разглядаць развіццё індывідуальнага і кааператыўнага жыллёвага будаўніцтва як сацыяльна-эканамічную задачу першараднай важнасці, звязаную з ростам нацыянальнага багацця і ўзроўню жыцця народа рэспублікі.

2. Выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў:

2.1. пачынаючы з 1992 года забяспечваць карэкціроўку наяўнай і распрацоўку нехапаючай праектна-планіровачнай дакументацыі для забудовы населеных пунктаў і фінансаванне гэтых работ у першачарговым парадку;

2.2. ажыццяўляць адвод тэрыторый для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва з улікам давядзення штогадовай яго долі ў агульным аб'ёме ўзвядзення жылля ў 1992—1995 гадах да 30—40 працэнтаў, а таксама выдзяленне прадпрыемствам і арганізацыям розных форм уласнасці зямельных участкаў для будаўніцтва жылых дамоў, прызначаных для продажу насельніцтву.

3. Устанавіць, што тэрыторыі індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва ў абавязковым парадку павінны забяспечвацца пад'язнымі дарогамі, цэнтралізаваным водазабеспячэннем, каналізацыяй, электраэнергіяй, газам і ацяпленнем (у раёнах, якія маюць газазабеспячэнне і цеплазабеспячэнне), а таксама іншымі аб'ектамі сацыяльнай інфраструктуры за кошт сродкаў прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый і фінансавых рэсурсаў адпаведных мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

4. Лічыць неабходным устанавіць, што:

4.1. індывідуальным забудоўшчыкам і жыллёва-будаўнічым кааператывам у 1992—1993 гадах крэдыты прадастаўляюцца на льготных умовах у размеры да 90 працэнтаў кошту будаўніцтва дома на тэрмін да 40 гадоў з пагашэннем з наступнага года пасля атрымання пазыкі і выплатай 5 працэнтаў гадавых за карыстанне імі. Будаўніцтва дамоў жыллёва-будаўнічых кааператываў можа ажыццяўляцца толькі пасля ўнясення кааператывам у банк уласных сродкаў у размеры не менш 10 працэнтаў каштарыснага кошту будаўніцтва дома і атрымання ім банкаўскага крэдыту.

Міністэрству фінансаў і Ашчаднаму банку вызначыць парадак узаемных адносін пры прадастаўленні ўказаных ільготных крэдытаў;

4.2. кампенсацыя ў 1992 годзе дзяржаўным падрадным арганізацыям рэспубліканскага падпарадкавання дадатковых затрат, звязаных з увядзеннем з 1 студзеня 1992 г. свабодных цэн і падаражаннем кошту будаўніцтва, па пачатаму да 1 студзеня 1992 г. будаўніцтву жылых дамоў жыллёва-будаўнічых (жыллёвых) кааператываў і індывідуальных забудоўшчыкаў ажыццяўляецца ў размеры 50 працэнтаў за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту і ў размеры 50 працэнтаў за кошт сродкаў жыллёва-будаўнічых (жыллёвых) кааператываў і індывідуальных забудоўшчыкаў.

Будаўніцтва такіх аб'ектаў лічыцца пачатым, калі заключаны дагаворы падраду і падрадчык пачаў вытворчасць работ да 1 студзеня 1992 г.

Рэкамендаваць выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў вяртаць дзяржаўным падрадным арганізацыям мясцовага падпарадкавання дадатковыя затраты ў даных размерах за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў і сродкаў жыллёва-будаўнічых (жыллёвых) кааператываў і індывідуальных забудоўшчыкаў.

Выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў з удзелам заказчыкаў, падрадчыкаў і фінансавых органаў удакладніць па ўказаных жылых дамах віды і аб'ёмы работ, якія належаць выкананню ў 1992 годзе, з афармленнем адпаведных актаў.

5. Лічыць неабходным рэкамендаваць прадпрыемствам, аб'яднанням, арганізацыям калгасам, іншым кааператыўным і грамадскім арганізацыям са згоды працоўных калектываў вяртаць сваім работнікам частку першапачатковага ўзносу на будаўніцтва кватэр у дамах жыллёва-будаўнічых кааператываў, а таксама аказваць ім дапамогу ў пагашэнні запазычанасці па пазыках банка, атрыманых на будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў і кватэр у дамах гэтых кааператываў, і па працэнтах за карыстанне імі.

6. Для змяншэння расходаў грамадзян на будаўніцтва кватэр у кааператыўных жылых дамах аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому накіроўваць частку капітальных укладанняў, выдзеленых на жыллёвае будаўніцтва ў 1992 годзе, на збудаванне ўнутрыквартальных інжынерных камунікацый, кошт якога ўключаны ў каштарыс будаўніцтва гэтых жылых дамоў. Да 10 красавіка бягучага года зацвердзіць размеры ўказаных капітальных укладанняў па кожнаму жыллёва-будаўнічаму кааператыву.

7. Дзяржбуду, Міністэрству жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Міністэрству юстыцыі з удзелам зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў, аблвыканкомаў і Мінскага гарвыканкома падрыхтаваць і прадставіць у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясенні ў дзеючае заканадаўства змяненняў, якія вынікаюць з гэтай пастановы.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**
**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

## Грамадзяне зацягнулі паясы. А дзяржава?

**У нармальнай рыначнай эканоміцы ўсякі спад вытворчасці звычайна тлумачаць дзвюма прычынамі: альбо лішкамі выпускаемага прадукту, альбо перабудовай структуры.
У нас, здаецца, з гэтым цяжкасцей ніякіх: і прадукту не хапае, і структура, на жаль, «на месцы». І тым не менш боўтаемся ў яме эканамічнага крызісу і выкараскацца ніяк не можам...**

Вось і вынікі работы за два месяцы, якія падрыхтаваў Дзяржкамстат, — гэткія ж несуцяшальныя, як і раней, нягледзячы на асобныя зрухі ў лютым адносна студзеня. Пры гэтым найбольш непрыемны спад (на 41 працэнт) — у нафтаперапрацоўцы. Добра вядома, чым ён пагражае. Асабліва напярэдадні сяўбы. Праўда, што датычыцца непасрэдна сяўбы, то, як паабяцаў на сесіі прэм'ер рэспублікі, для яе забеспячэння будзе зроблена ўсё. Прычым магчымыя ахвяры: як з боку аўтааматараў, для якіх можа не знайсціся бензіну, так і з боку кіраўніка Дзяржкампаліванрадукту, які можа страціць пасаду. Лепш было б, каб абышлося без «рэпрэсій», гэта дакладней за ўсё сведчыла б, што адсеяліся нармальна.

Дрэнна ідуць справы і ў іншых галінах. Па сутнасці церпяць крах бабруйскія шынныя заводы (спад на 56 працэнтаў), «Гомсельмаш» — (65), магілёўскі «Электрарухавік» (73)... На гэтым фоне хіба толькі прамысловасць будаўнічых матэрыялаў працавала з адносна невялікімі стратамі.

Вядома, пры агульным эканамічным крызісе (падкрэслім: звышвытворчасць нам не пагражае і, напэўна, вельмі не скора будзе пагражаць) далёкія ад таго, каб заваліць нас таварамі, і тыя прадпрыемствы, якія працуюць непасрэдна на чалавека. Прычым адносна некаторых нават гучна будзе сказана «працуюць». Звернем увагу на наступны дзяржкамстатаўскі радок: вытворчасць жаночых калготак зменшылася за два месяцы на 70,4 (!) працэнта. Вось такі, з дазволу, падарунак жанчынам. Прывітанне ад найпрагрэсіўнейшай лёгкай прамысловасці — ранейшай завадатаркі розных эканамічных эксперыментаў.

Намнога меншая, чым летась, і вытворчасць каляровых тэлевізараў, іншых прамысловых тавараў. І, як звычайна, не радуе паказчыкамі харчовая прамысловасць.

Прынамсі, гэта ўжо не здзіўляе. Здзіўляе тое, што адбываецца на спажывецкім рынку. Нават гэта невысокая актыўнасць вытворцаў, няйначай, дазваляе напаўняць яго — агульны аб'ём таварных запасаў у рознічным гандлі вырас больш як на 10 працэнтаў. Усё становіцца на сваё месца, калі мы паглядзім аб'ём рознічнага гандлёвага абароту: ён у супастаўных цэнах скараціўся за два месяцы амаль напалавіну —на 43 працэнты. Які тут можна зрабіць вывад? Насычэнне спажывецкага рынку праходзіць за кошт рэзкага абмежавання спажывання,—якое, варта заўважыць, і раней было вельмі далёкім ад нармальнага, — за кошт надзвычайнай эканоміі на ўсім і ўся. Гэта самае насычэнне адбываецца на фоне яўнага збяднення многіх і многіх, хто, дарэчы, не можа ўжо дазволіць сабе кожны дзень нават «мокрую» каўбасу...

Ці не павінны паслужыць гэтыя лічбы для сур'ёзнага роздуму, ці не з'яўляюцца яны прыкметамі стагнацыі эканомікі. Ва ўсякім разе, у яе спажывецкім сектары. Зрэшты, сказанае датычыцца і некаторай прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння. Карацей, гэта не надта прыемная з'ява, калі пры ўсеагульным і амаль усеахопным дэфіцыце мы на сённяшні дзень маем рэзкае зніжэнне вытворчасці і такое ж рэзкае зніжэнне спажывання.

Варта дадаць: сярэднямесячную зарплату Дзяржкамстат зафіксаваў на ўзроўні 1.313 рублёў. А сума мінімальнага спажывецкага бюджэту, згодна з некаторымі разлікамі, складае 1.100—1.200 рублёў. Не разгонішся, каб палепшыць той жа гандлёвы абарот. Калі верыць апошнім лічбам, мы ў цэлым здольныя купіць на сваю сярэднямесячную зарплату толькі жыццёва неабходны мінімум.

Між іншым, ужо ўсталявалася меркаванне: калі ў грамадстве больш палавіны зарплаты трацяць на харчаванне, значыць, эканоміка сур'ёзна кульгае. Няцяжка прыкінуць, колькі з нашай сярэднямесячнай зарплаты ідзе менавіта на харчаванне.

Многія лічбы сведчаць: жыццёвы ўзровень людзей рэзка знізіўся, а паляпшэння становішча ў эканоміцы не адбылося. Не адладжана і наша грашова-фінансавая сістэма. Увогуле, з усяго набору рыначных рэформ дзейнічае па сутнасці толькі лібералізацыя. Ці не занадта мізэрны вынік, калі мець на ўвазе ахвяры?

Разам з тым, гэта, відаць, яшчэ не ўся глыбіня нашага падзення. І не будзем цешыць сябе тут надзеямі, гэта самае небяспечнае. Па-першае, трэба мець на ўвазе нашы прастойваючыя без сыравіны і патрабуючыя зарплаты гіганты накшталт «Гомсельмаша». А галоўнае, нас, па ўсім відаць, усё ж чакаюць новыя вольныя цэны на нафту, якія пакуль што адтэрмінаваны ў сувязі з сяўбой. Далей такой жа адтэрміноўкі, відаць, не будзе. А «вольная» нафта непазбежна выкліча значны, у некалькі разоў, рост цэн і на іншую прадукцыю. Вядома, і на тыя ж тавары.

Наш вораг — наша бестурботнасць, самазаспакоенасць: маўляў, усё ўладкуецца само па сабе...

Ды не. Само па сабе — ніколі. Тым больш, калі будзем дараваць з бюджэту, а не адправім выключна на свой хлеб розныя прадпрыемствы і арганізацыі (г. зн. калі банкруты не стануць банкрутамі на самай справе), калі не прыкароцім апетыты па частцы расходавання сродкаў, у тым ліку і нават найперш — ваенныя (нагадаю, нядаўна прагучала такая лічба: на стварэнне свайго войска спатрэбіцца ажно 17 мільярдаў рублёў. Ці не задорага для нас?) Перш за ўсё трэба жыць па сродках. Не толькі радавому спажыўцу, а дзяржаве ў цэлым. Трэба таксама навучыцца гэтыя сродкі зарабляць, г. зн. мець у рэспубліцы канкурэнтназдольны тавар. Накшталт той жа нафты. Дарэчы, варта ўжо вызначыцца і з пэўнымі, канкрэтнымі прыярытэтамі і, безумоўна, цвёрда прытрымлівацца іх, не распыляць сродкі, па сутнасці не марнаваць іх на ўсё адразу. Зрэшты, многае тут залежыць ад таго, наколькі хутка ўсталюецца ў нас так званая альтэрнатыўная эканоміка.

Праўда, жыццё ўсё ж прымушае круціцца многіх. Такі цікавы і абнадзейваючы факт: на Мінскім маторным заводзе нядаўна выраблялі эксперыментальны рухавік для МАЗа. І адразу ж атрымалі заказ на 50 (пакуль што) такіх рухавікоў. Можа, і заменім імі калі-небудзь яраслаўскія, альбо саб'ём цану на іх і такім чынам зэканомім бартэрныя мяса ды масла?..

**Іван БАРАНОЎСКІ,
аглядальнік «Звязды».**

ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ

# Пра малако, кватэры і «ліпавых» ліквідатараў

**Чарнобыльская катастрофа нарадзіла шмат праблем. Для вырашэння іх людзі звяртаюцца ў розныя інстанцыі. Пацвярджэннем таму — чарговы пачак пісьмаў у рэдакцыю ад чарнобыльцаў. Адказаць на іх мы папрасілі намесніка старшыні Гомельскага аблвыканкома Віталя Сыча. З ім гутарыць наш уласны карэспандэнт Уладзімір Пернікаў.**

## Пошту «Звязды» каменціруе намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкома Віталь СЫЧ

**—Віталь Мікалаевіч, жыхар гарпасёлка Уваравічы, што ў Буда-Кашалёўскім раёне, Рыгор Рыгоравіч Бабок пытанне ставіць так: колькі яшчэ часу нас будуць атручваць радыеактыўнымі цэзіем і стронцыем? Прадукты харчавання перанасычаны імі, а поспехі ў працы работнікаў сельскай гаспадаркі, якія вырошчваюць хлеб, бульбу, кормяць жывёлу і пастаўляюць у магазіны малако і мяса, асабліва з забруджаных радыяцыяй раёнаў, прама прапарцыянальныя рабоце пахавальнага бюро.**

— Пытанне вострае, але аўтар, як гавораць у такіх выпадках, перагібае палку. Зазначу, што ва ўсёй Беларусі вядзецца радыелагічны кантроль за прадуктамі харчавання ў адпаведнасці з рэспубліканскімі кантрольнымі ўзроўнямі (РКУ) 1990 года. Гэтыя ўзроўні намнога больш жорсткія, чым былыя саюзныя, а на Гомельшчыне — яшчэ больш жорсткія, чым рэспубліканскія.

У нашай вобласці ў харчовай прамысловасці сыравіна і гатовая прадукцыя кантралююцца ведамаснымі радыелагічнымі лабараторыямі, а работнікі дзяржаўнага санітарнага нагляду робяць выбарачны радыяцыйны кантроль усіх прадуктаў, якія паступаюць у магазіны і сетку грамадскага харчавання, кааператыўны гандаль. Правяраецца і прадукцыя, вырошчваемая і вырабляемая насельніцтвам для асабістага спажывання.

Паводле даных абласной санэпідслужбы, у дзяржаўным сектары летась не выяўлена ніводнага выпадку з узроўнямі ўтрымання радыенуклідаў цэзію вышэй РКУ ў малацэ і малочных вырабах, рыбе, агародніне. І толькі дзве пробы (а гэта ўсяго 0,03 працэнта) засведчылі іх наяўнасць у мясе, што з'явілася прычынай сур'ёзнага службовага расследавання. Што датычыць рынкаў, то там такіх выпадкаў значна больш, бо асобныя вяскоўцы вязуць неправераную прадукцыю. Каб пазбегнуць непрыемнасцей, пакупнікам трэба патрабаваць у іх адпаведны сертыфікат.

І яшчэ. Летась у верасні ў сувязі з неаднаразовымі запытамі людзей наконт таго, што, маўляў, на элеватары, збожжасховішчы і на мукамольныя прадпрыемствы вобласці закладваецца «бруднае» збожжа, санслужбы правялі выбарачны кантроль (а пастаянны наладжаны ў гаспадарках і пералічаных вышэй дзяржаўных прадпрыемствах). Ва ўсіх 318 пробах перавышэння сумарнага ўтрымання радыенуклідаў у збожжы выяўлена не было.

Рыгор Рыгоравіч трывожыцца таксама, што на Буда-Кашалёўскім малочным заводзе «чыстае» і «бруднае» малако змешваецца. Дык трэба сказаць, што такога завода там наогул няма. Відаць, спадар Бабок мае на ўвазе масласырзавод, які вырабляе сыр «Расійскі». Зазначу, што малако для яго паступае з прыдняпроўскай зоны раёна, дзе шчыльнасць забруджвання зямель складае ад аднаго да пяці кюры на квадратны кіламетр. Кантроль за прадукцыяй вядзецца і на стадыі паступлення малака, і на ўсіх тэхналагічных працэсах. Летась ніводная проба дзяржсаннагляду не паказала перавышэння РКУ-90 у прадукцыі прадпрыемства.

**— Бабруйчанін Мікалай Шугалееў скардзіцца, што за дом яго маці ў вёсцы Сівенка Веткаўскага раёна, уладальнікам якога ён з'яўляецца па спадчыне, ніяк не выплацяць каэфіцыент-2. І гэта нягледзячы на тое, што вёска ўжо выселена. У Веткаўскім райфінаддзеле быццам бы яму гаварыць, што ёсць нейкае ўказанне плаціць за такія домаўладанні па старой цане.**

— Вёска Сівенка знаходзіцца ў зоне першачарговага адсялення, і, як праверыла фінансавае ўпраўленне аблвыканкома, дом Мікалая Шугалеева быў здадзены дзяржаве летась 19 верасня, гэта значыць, пасля павышэння цэн на будматэрыялы. Такім чынам, яму павінны выплаціць кампенсацыю за будынак з каэфіцыентам-2. Калі ён атрымаў выплату з каэфіцыентам-1, то гэта трэба разглядаць як аванс з абавязковым пагашэннем і другой часткі кампенсацыі. Веткаўскі райфінаддзел адмовіў яму, відаць, таму, што на гэтыя мэты на той час не было адкрыта фінансаванне. Значыць, цяпер ён можа звярнуцца туды зноў, маючы пры сабе пашпарт, рашэнне народнага суда аб атрыманні ў спадчыну дома і акт здачы яго дзяржаве.

**— А вось два пісьмы на адну тэму. Іх даслалі сем калгаснікаў з вёскі Кругаўка Добрушскага і Надзея Мацвееўна Мазурэнка з вёскі Хамянкі Нараўлянскага раёнаў. Першыя цікавяцца, ці будуць ім зроблены пераразлікі кошту ўласных дамоў, якія яны пакідаюць з прычыны адсялення з зоны жорсткага кантролю, у сувязі з павышэннем цэн? Пашпарты на іх дамы выпісаны да 1 сакавіка мінулага года. А Мазурэнка хоча набыць уласны дом у Калінкавічах, для чаго неабходна атрымаць крэдыт. Але, як яна піша, закруцілася бюракратычная валакіта.**

— Добрушцам я скажу вось што. Вёска Кругаўка адносіцца да зоны непершачарговага адсялення. Ім могуць быць прадастаўлены новыя дамы ці кватэры там, куды іх перасяляць, або выплачана кампенсацыя за пакінутыя будынкі і збудаванні з папраўчым каэфіцыентам-2, згодна з распараджэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 чэрвеня 1991 года.

Да Надзеі Мазурэнка з боку мясцовых савецкіх і гаспадарчых органаў сапраўды праяўлена няўвага. У аблвыканкоме разгледзелі яе скаргу, дасланую ў «Звязду», і паведамляем наступнае. Ёсць пункт 13 артыкула 22 Закона Рэспублікі Беларусь аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Ім прадугледжана выдача перасяленцам беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва ці набыццё індывідуальных жылых дамоў.

Для атрымання крэдыту ў Калінкавіцкім жылсацбанку Надзеі Мацвееўне трэба прад'явіць эвакуацыйнае пасведчанне, пашпарт з калінкавіцкай прапіскай і два паручыцельствы. Тады ёй павінны выдаць пазыку ў размеры 75 працэнтаў кошту дома, які яна набывае. Але я не раіў бы ёй рабіць гэтага. І ведаеце, чаму? Навошта сёння добраахвотна залазіць у кабалу? У сувязі з лібералізацыяй цэн за той дом, відаць, трэба заплаціць не адну сотню тысяч. Дзяржава ж для перасяленцаў прадастаўляе ў розных рэгіёнах рэспублікі добраўпарадкаванае жыллё. Прычым, яно прыватызуецца. Дык вось, ужо больш трох месяцаў у рэспубліцы ў цэлым, у тым ліку і ў Калінкавіцкім раёне, не засяляецца каля чатырох тысяч дамоў і кватэр, прызначаных тым, хто пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы. Мяркую, Надзея Мацвееўна зможа выбраць сабе па густу новае месца для пражывання.

**— І яшчэ два пісьмы на адну тэму. Былая жыхарка вёскі Ляды Брагінскага раёна Валянціна Чысцік, якая жыве зараз у Рагачоўскім раёне, расказвае, што яе аднавяскоўцы і яна з мужам восем дзён жылі і працавалі ў 30-кіламетровай зоне пасля таго, як адбыўся выбух у Чарнобылі. Яны дагэтуль не атрымалі пасведчанні ліквідатараў, хоць маюць неабходныя дакументы. А жыхар Хойнік І. Дзёмін абураецца тым, што ліквідатараў развялося апошнім часам надта многа. Ён з'едліва піша, што ў іх райцэнтры ўсе ліквідатары — «пенсіянеры, дзеці; праўда, чарга яшчэ не дайшла да сабак...»**

— Па першаму пісьму скажу, што да ліку ліквідатараў адносяцца грамадзяне, якія пражывалі ў зоне эвакуацыі і прымалі ўдзел у работах, звязаных з ліквідацыяй вынікаў катастрофы на ЧАЭС. Валянціне Васільеўне для атрымання пасведчання ліквідатара неабходна звярнуцца ў камісію па месцы работы і прадставіць туды даведку аб заработнай плаце ў зоне эвакуацыі памесячна з указаннем віду выконваемых работ, выпіску з працоўнай кніжкі, копію эвакапасведчання ці даведку аб пражыванні ў зоне эвакуацыі. Калі яна пенсіянерка, афармленне дакументаў трэба ажыццяўляць праз аддзел сацыяльнага забеспячэння райвыканкома.

Пры ўсім сарказме І. Дзёміна нельга пакідаць яго пісьмо без увагі. І вось чаму. На Гомельшчыне зараз больш за 30 тысяч ліквідатараў, бо ўсе, хто працаваў тады ў 30-кіламетровай зоне, атрымалі пасведчанні. Чаму многа іх у Хойніках? У першыя дні пасля катастрофы на жыхароў і працаўнікоў гэтага, а таксама Брагінскага і Нараўлянскага раёнаў выпаў асноўны цяжар па эвакуацыі людзей і жывёлы, іншых работах. Ліквідатары, сапраўды, папрацавалі нямала, не думаючы аб пагрозе іх здароўю.

Але ці значыць гэта, што сярод іх не сустракаюцца такія, хто не прадставіў неабходныя дакументы па ўдзелу ў ліквідацыйных работах, а пасведчанне ліквідатара атрымаў? Праверка Дзяржкамчарнобыля паказала, што пры афармленні пасведчанняў некаторыя міністэрствы і ведамствы ў асобных выпадках упор рабілі не на пэўныя, скажам, бухгалтарскія дакументы, а на сведчанні відавочцаў. Таму ён рэкамендаваў ведамасным камісіям вярнуцца да гэтага пытання зноў.

Карыстаючыся выпадкам, яшчэ раз хачу паўтарыць, што радыяцыйная абстаноўка ў вобласці кантралюецца. Мы завяршаем перасяленне людзей, якія за год могуць набраць 0,5 бэра. Больш цесныя сувязі ўсталяваліся ў нас з Акадэміяй навук рэспублікі — разлічваем на большую дапамогу ў ажыццяўленні ахоўных мерапрыемстваў, асабліва ў дэзактывацыі тэрыторый, змяншэнні радыяцыйнай нагрузкі.

Нельга не сказаць і наступнае. Распад СССР надзвычай ускладняе выкананне нашых праграм. Украіна адмовілася ўдзельнічаць у стварэнні агульнай чарнобыльскай «скарбонкі» краін СНД, а Расія не выконвае сваіх абяцанняў. У выніку сёлета на ахоўныя мерапрыемствы — будаўніцтва дарог, аб'ектаў сацыяльнага прызначэння, газіфікацыю, добраўпарадкаванне — вобласці адпушчана капітальных укладанняў утрая менш, чым летась. Таму не ўсе артыкулы Закона аб сацыяльнай абароне чарнобыльцаў працуюць у поўным аб'ёме. Мы спадзяёмся, што ў новых структурах СНД усё ж знойдуць магчымасць стварыць цэнтралізаваны фонд для рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы па Чарнобылю.

ФОТАПАРТРЭТЫ ВЯСКОЎЦАЎ

# Зямля людзьмі і азёрамі прыгожая

У азёрнай старонцы — у Лепельскім раёне — у кожным калгасе ёсць сваё возера. А ў калгасе «Салют» іх ажно пяць. Краявіды тут — незвычайнай прыгажосці. Але часам кажуць тут і так: «Шмат краявідаў, ды мала фуражу». У гэтай іроніі ёсць ісціна. Землі калгаса на самым высокім у раёне ўзвышшы. Тут пяскі, у якіх заяц забуксуе, тут і суглінак. Але на гэтай спакон веку не самай лепшай зямлі і ў гэты не самы лепшы час усё-такі жывуць і працуюць людзі — добрыя, шчырыя, прыгожыя.

Усе ў акрузе ведаюць Уладзіміра Сямёнавіча Фокіна... «Тула, Тула, Тула — я, Тула — радзіма мая» — ведае ён гэту прыпеўку таму, што сам — туляк. Пасля вайны прыехаў ён на Лепельшчыну і назаўсёды звязаў з ёю свой лёс. Ваенны шафёр, земляроб, механізатар, чалавек з залатымі рукамі. Яго хату ў вёсцы Стаі ўбачыш адразу: пад дахам певень-флюгер, зроблены ўласнаручна, уся хата — у адмысловай разьбе: дзіўныя птушкі, драўляныя кветкі, гронкі ягад. Вялікая ўласная гаспадарка: свінні, карова, птушка, самаробны трактарок. Да пенсіі кіраваў механізатарскім атрадам, працаваў брыгадзірам.

А вось працоўная біяграфія Зоі Рабінінай пачалася ў гаспадарцы не так даўно: маладым спецыялістам прыехала яна ў калгас, дзе загадвае лабараторыяй у мясакансервавым цэху.

Цікавы лёс у Барыса Фаміча Шуміхіна. Зусім яшчэ нядаўна насіў ён строгую фуражку марскога афіцэра. Служыў на Балтыйскім флоце. Пасля звальнення прыехаў у калгас, купіў невялікую хацінку, добраўпарадкаваў яе. Але не адчувае сябе пенсіянерам, да таго ж працуе вахцёрам на жывёлагадоўчым комплексе. У кожнага сваё жыццё, свае турботы...

Але, бадай, найбольш іх у старшыні Уладзіміра Тарасава. Ён — з мясцовых, лепельскіх. Ведае і любіць свой родны край. Гэтыя небагатыя, але маляўнічыя землі. Зрэшты, чаму небагатыя? Гледзячы як арганізаваць справу. З вялікімі цяжкасцямі, але будуюцца, акультурваюцца вёскі гаспадаркі.

У калгасе шмат падсобных промыслаў... Але галоўны клопат — гэта зямля і людзі, ураджаі, жывёла...

Угледзьцеся ў гэтыя сімпатычныя твары нашых звычайных сучаснікаў, сфатаграфаваных не на мітынгах, а ў азёрным Лепельскім краі. Канешне, усе цяжкасці нашага часу перажываюць і яны. Але ў іх поглядах ёсць надзея. На лепшае.

**Анатоль ПАЛОНСКІ.**
**Уладзімір ЯКАВЕНКА (фота).**

**НА ЗДЫМКАХ: людзі з лепельскага калгаса «Салют»: Уладзімір Сямёнавіч ФОКІН, механізатар-пенсіянер; Зоя РАБІНІНА, загадчык лабараторыі; Барыс Фаміч ШУМІХІН, вахцёр; Уладзімір Віктаравіч ТАРАСАЎ, старшыня.**

ГУМАРЭСКА

# Бакалаўр палітычных навук

Рабочы дзень скончыўся, і абноўленая, з новай назвай і новай прыгожай шыльдай на дзвярах установа Браніслава Назаравіча аціхала. Сам Браніслаў Назаравіч, наструнены за тлумны дзень, перш чым накіравацца дадому, таксама павінен быў аціхнуць душой. Ён павольна хадзіў па кабінеце, думаў: галоўнае, Бронік, цяпер, у гэты шалёны час,— захаваць сваю чалавечую годнасць... Ды яно лёгка сказаць— захаваць. А як? Глыбакадумныя разважанні прывялі яго да цвёрдай высновы: правільна, век жыві — век вучыся... Далей яго думкі пацяклі раўней, як ручаіна ў меліярацыйнай канаве: і вучыцца трэба не толькі ў людзей — ва ўсёй жывой прыроды. У звяроў, у птушак, у мурашоў... Хіба, напрыклад, не павучальна, як жыве цар звяроў леў? Прыгожы і велічны звер гэты не дарэмна ўвенчаны каронай, цар — ён і ёсць цар. Што ён бульбу будзе есці, нібы тая свіння? Толькі мяса. І палюе для яго царскай вялікасці яе міласць ільвіца.

А цар птушак арол? Завёў крылом пад хмарай, прыкмеціў адтуль якую дурніцу — трасцу дасць ёй лётасці, у кіпцюры яе: не будзь разявай... Потым горда сядзіць на горнай скале, не раўнуючы, як у прэзідыуме на якім пленуме ці на пасяджэнні якой рады. Ды яно і то праўда: «Страна наша, — як пісаў паэт, — велика и обильна, а порядка в ней нет». Развялося рознай пошасці, пішчаць, каркаюць, рыкаюць... У друку, па тэлебачанні і радыё, на вуліцах і плошчах. Дык яно во і якраз — з-пад хмары... І левым, і правым — усім тады зарве. «У власти ж орлиной, — пяецца ў песні, — орлят миллионы, и нами гордится страна». Дык каму гэта ахвота ў кіпцюры арла, які раскрыліўся ў сваёй дужай маладой сіле?.. Не, што ні кажы, а ў кожнага стварэння можна нечаму навучыцца.

Толькі вось хіба ў сабакі... Тут Браніславу Назаравічу неспадзявана прыгадаўся Цюлік, яго дачны вартаўнік. Ляжыць, лянівая псіна, ліжа сваё інтымнае сабачае месца, быццам яму і занятку іншага няма, потым задзярэ куртатую пысу — і гаў, гаў!.. Праўда, бывае і такое: калі яму дужа, відаць, засвярбіць, павернецца да абчэпленага дзядамі хваста і давай на яго брахаць! Ды так залівіста і зацята — ажно са скуры вылузваецца! Думае, мусіць: віляй, каўтун няшчасны, ды ведай, у які бок...

Віжлівыя вочы Браніслава Назаравіча міжвольна стрэлілі за акно, дзе па шырокім тратуары цякла густая людская плынь. І ў душы ледзяным халадам павеяў знаёмы страх. Віхурай уварваліся ў памяць словы школьнага таварыша, цяпер калгаснага механізатара Апанаса Канопліча. Той нядаўна пры выпадковай сустрэчы на вуліцы з горкім дакорам сцебануў яго: «Доўгі брудны хвост, Браніслаў, цягнецца за вашым братам-бюракратам. І як вы будзеце адмывацца ад яго?..»

Браніслаў Назаравіч стаяў нібы застылы. Сапраўды, хвост у яго доўгі: і хлусіў ён, і прыстасоўваўся хіжа, плюючы на сумленне, абы толькі дамагчыся для сябе дабрабыту... Дык— як?.. Раптам ён тузануўся, бязгучна засмяяўся: «А вось так!.. Ах, Цюлік, Цюлік! Не псіна — бакалаўр палітычных навук! Пабрашу і я на свой хвост, можа, паверацца».

**Аляксандр КАПУСЦІН.**

# Азіяцкія «драконы» гатовы з намі рабіць бізнес

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Тайландскія бізнесмены выказалі таксама зацікаўленасць у стварэнні магутнасцей па перапрацоўцы фосфагіпсу ў Светлагорску, высокай перапрацоўцы бульбы на крухмал, глюкозу. Тайланд вырабляе велізарную колькасць танных і якасных тавараў народнага спажывання, якія ён на выгадных умовах можа нам прадаваць.

Усяго адзін дзень была наша дэлегацыя ў Паўднёвай Карэі, але і за гэты кароткі тэрмін паспела нямала. Напрыклад, дамовілася з фірмай аб канверсіі былога аб'яднання імя Леніна ў Мінску на выпуск мікрахвалевых пячэй. Таксама былі абмеркаваны з зацікаўленай фірмай пытанні будучай рэканструкцыі гродзенскага ВА «Азот», іншыя шляхі развіцця супрацоўніцтва.

Паспелі члены дэлегацыі агледзець у Сеуле і месца пад будучае прадстаўніцтва Беларусі. Бо Паўднёвая Карэя мае вельмі зручнае геаграфічнае становішча, і тут выгадна мець пасольства, якое падтрымлівала б адносіны з Японіяй, Тайландам, Кітаем, іншымі краінамі.

**Л. ТУГАРЫН.**

УРАДАВАЯ ХРОНІКА

## ХТО ПАЕДЗЕ ЗА ГРАНІЦУ?

У апошні час значна расшырыліся міжнародныя кантакты, а таксама знешнеэканамічныя сувязі нашай рэспублікі. І, натуральна, — паездкі за рубеж прадстаўнікоў Беларусі па розных пытаннях. З улікам гэтага Савет Міністраў прыняў пастанову, накіраваную на павышэнне эфектыўнасці камандзіравання і ўдасканаленне арганізацыі выезду спецыялістаў за граніцу, узмацненне адказнасці за рацыянальнае расходаванне адпаведных валютных сродкаў.

У даным рашэнні вызначаны новы парадак накіравання за рубеж урадавых дэлегацый Беларусі, дэлегацый міністэрстваў, ведамстваў, цэнтральных устаноў рэспублікі, камандзіравання за граніцу работнікаў дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, фінансавага забеспячэння такіх паездак.

## МІНВАДГАС — МІНСЕЛЬГАСПРОДУ

У сувязі з пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі «Аб змяненні структуры Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь» урад падтрымаў прапанову аб перадачы Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый былога Міністэрства воднай гаспадаркі і аднаўлення зямель. Зацверджаны канкрэтны пералік такіх аб'ектаў.

## УРАД — ВЕСЦЫ

Распараджэннем Савета Міністраў Мінсельгаспроду рэспублікі выдзелена ў 1992 годзе на кампенсацыю дадатковых затрат прадпрыемстваў і арганізацый аграпрамысловага комплексу, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак за IV квартал мінулага года ў сувязі з павышэннем аптовых і рознічных цэн 320 млн. рублёў.

## У ІНТАРЭСАХ ІНВАЛІДАЎ

Створаны Рэспубліканскі міжведамасны савет па праблемах інвалідаў, які ўзначаліў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў М. У. Мясніковіч. Новае фарміраванне заклікана ажыццяўляць каардынацыю дзеянняў дзяржаўных органаў, грамадскіх арганізацый і працоўных калектываў па выкананню Закона «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь».

Больш эфектыўнаму вырашэнню праблем данай катэгорыі грамадзян будзе садзейнічаць і стварэнне ў Міністэрстве аховы здароўя аддзела экспертызы працаздольнасці, рэабілітацыі і сацыяльнай абароны інвалідаў. Пастанова аб гэтым прынята днямі беларускім урадам.

## З НАВАСЕЛЛЕМ!

Хутка можна будзе павіншаваць работнікаў Галоўархіва і Дзяржаўнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Ім выдзелены памяшканні ў будынку былога Цэнтральнага партыйнага архіва ЦК КПБ у г. Мінску, якое распараджэннем Савета Міністраў перададзена рэспубліканскаму Міністэрству культуры.

## БУДУЕМ СУВЕРЭННУЮ ДЗЯРЖАВУ

У мэтах станаўлення і далейшага ўдасканалення консульскай службы рэспублікі Савет Міністраў даручыў Мінфіну па ўзгадненню з МЗС зацвердзіць і ўвесці ў дзеянне Тарыф консульскіх збораў Рэспублікі Беларусь, а таксама ўнесці адпаведныя змяненні ў Тарыф аплаты паслуг па афармленню замежных пашпартаў і іншых выязных дакументаў для работнікаў, якія камандзіруюцца за граніцу.

***

7—15 красавіка 1992 г. у г. Жэневе адбудзецца 47-я сесія Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН. Распараджэннем Савета Міністраў для ўдзелу ў яе рабоце накіроўваецца дэлегацыя Рэспублікі Беларусь у саставе Я. М. Махліна, намесніка старшыні Дзяржэканомплана, і М. М. Ляпешкі, другога сакратара МЗС.

***

Урад рэспублікі назначыў паўнамоцным прадстаўніком Савета Міністраў Беларусі ў Аб'яднаным інстытуце ядзерных даследаванняў намесніка дырэктара па навуковай рабоце Навукова-даследчага інстытута ядзерных праблем пры Белдзяржуніверсітэце, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара М. М. Шумейку.

***

У адпаведнасці з Пагадненнем дзяржаў — удзельніц СНД у галіне гідраметэаралогіі Савет Міністраў упаўнаважыў начальніка Галоўгідрамета Ю. М. Пакумейку на падпісанне ад імя ўрада Рэспублікі Беларусь Пратакола аб паўнамоцтвах, парадку арганізацыі работ і фінансавання Міждзяржаўнага савета па гідраметэаралогіі дзяржаў — удзельніц Пагаднення і яго Выканаўчага камітэта.

***

Савет Міністраў падтрымаў прапанову Міністэрства культуры, узгодненую з Дзяржэканомпланам, Міністэрствам фінансаў і Мінскім гарвыканкомам, аб стварэнні ў г. Мінску на базе канцэртна-гастрольнага аб'яднання «Мінскканцэрт» гасразліковай Рэспубліканскай дырэкцыі эстрадна-цыркавога мастацтва.

***

Прынята пастанова Савета Міністраў аб паляпшэнні матэрыяльнага забеспячэння ваеннаслужачых унутраных войск Міністэрства ўнутраных спраў, якая ўведзена ў дзеянне з 1 студзеня 1992 года.

**Агляд падрыхтаваны службай інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО

# «КУПІЦЬ ЗЯМЛЮ, ПРЫДБАЦЬ СВОЙ КУТ...»

**ЛУГІН Яўген Міхайлавіч, старшыня Беларускай сялянскай партыі. 57 гадоў.**

**Прафесіянальны вайсковец, служыў у будаўнічых войсках. Падпалкоўнік запасу.**

**Пасля выхаду ў адстаўку паехаў у родную вёску ў Глускім раёне, збудаваў дом. Паўтара года дабіваўся зямлі, рэгістрацыі кааператыва. Праўленне калгаса яму ў гэтым адмовіла. Няўдача паслужыла штуршком для ўдзелу ў палітычнай барацьбе.**

**Жанаты, мае двух сыноў. Жыве ў Мінску.**

**— Сялянская партыя, ледзь увайшоўшы ў блок дэмакратычных сіл «Новая Беларусь», тут жа аб'ядналася ў кааліцыю з нацыянал-дэмакратамі і хрысціянскімі дэмакратамі. Ці азначае гэта, што вы можаце знайсці агульную мову з партыямі любых палітычных напрамкаў?**

— Калі адносіны гэтых партый да зямельнай рэформы супадаюць з нашай пазіцыяй — мы гатовы супрацоўнічаць і не вельмі звяртаем увагу на ідэалагічныя разыходжанні. Таму і стаў магчымым для многіх нечаканы саюз спачатку з Грамадой, потым — з НДПБ і ХДЗ. Усе гэтыя партыі падзяляюць нашы погляды на пераўтварэнне вёскі, на змену формы ўласнасці на зямлю.

**— Але ж і цяперашнія камуністы не настойваюць на манаполіі калгасаў і саўгасаў. Значыць, не выключана, што вы і з імі аб'яднаецеся ў які-небудзь блок?**

— Пра гэта рана гаварыць — Партыя камуністаў Беларусі пакуль што не зарэгістравана. Але ў любым выпадку мы не схільныя да антыкамуністычнай істэрыі і не звальваем на былую КПСС усю віну за сённяшнія беды. Увогуле, вырашаць цяпер праблему «Хто вінаваты?» — марны занятак, бо па вялікаму рахунку вінаваты ўсе, — і тыя, хто кіраваў, і тыя, хто пакорліва выконваў загады або спрыяў камуністычнаму рэжыму сваім бяздзеяннем. Таму мы не дзелім людзей на былых і цяперашніх, не вылучаем тых, хто не меў ніякага дачынення да КПСС, і не асуджаем камуністаў. У рэшце рэшт, мы ўсе выраслі ў той сістэме і ва ўсіх нас сядзіць нямала ідэалагічнага смецця.

А што датычыць супрацоўніцтва з камуністамі, то мы гатовы да яго, калі праграмы нашых партый у зямельным пытанні будуць мець агульныя рысы.

**— Сёння вяскоўцы не могуць паскардзіцца на недахоп палітычных і грамадскіх арганізацый, якія дэкларуюць абарону інтарэсаў сялянства: Саюз аграрнікаў, Савет калгасаў, Сялянскі саюз... Чым хоча прывабіць земляроба сялянская партыя?**

— Не сакрэт, што Савет калгасаў і Саюз аграрнікаў былі створаны ў свой час па ініцыятыве ЦК КПБ для абароны калгасна-саўгаснай сістэмы і адміністрацыйна-камандных метадаў кіравання. І як бы ні змяніліся пад уплывам знешніх акалічнасцей праграмы гэтых арганізацый, сутнасць іх у многім застаецца ранейшай. Думаю, што і Аграрная партыя, якую маюць намер стварыць лідэры Саюза аграрнікаў, будзе мець апорай для сваёй платформы нежыццяздольную на сённяшні дзень калгасна-саўгасную сістэму.

Мэта нашай партыі — свабодны гаспадар на ўласнай зямлі. Прычым гэта можа быць не толькі фермер, але і сельскагаспадарчы кааператыў, асацыяцыя фермерскіх гаспадарак. Мы не заклікаем да неадкладнага роспуску калгасаў і саўгасаў — гэты працэс павінен адбыцца паступова.

**— Колькі часу, на вашу думку, спатрэбіцца для таго, каб правесці зямельную рэформу?**

— Калі гэту рэформу не будуць сабатаваць на месцах, яна магла б укласціся гады ў два. Некаторыя калгасы і саўгасы ўжо ідуць гэтым шляхам, праводзячы акцыяніраванне, выдзяляючы зямлю тым, хто выказаў жаданне мець яе.

Прыкра толькі, што з самага пачатку мы не арыентуемся на аптымальныя размеры фермерскіх гаспадарак. Вярхоўны Савет выказаўся за тое, каб у прыватную ўласнасць пераходзілі надзелы, якія б не перавышалі 50 гектараў. Між тым, агульнавядома, што найбольш эфектыўна можна гаспадарыць на значна большых участках,— у 70—100 гектараў.

**— Вы наракаеце на марудлівасць у правядзенні аграрнай рэформы. А што, па-вашаму, магло б прыспешыць гэты працэс?**

— Вярхоўны Савет мог бы павялічыць падатак на зямлю— тады калгасы і саўгасы самі стараліся б пазбавіцца ад лішніх участкаў, якія дрэнна апрацоўваюцца або не апрацоўваюцца ўвогуле. Тая сімвалічная плата, якая існуе цяпер — 10 рублёў за гектар,—спрыяе інертнасці, бяздзеянню сельскагаспадарчых кіраўнікоў.

**— А датэрміновы роспуск Вярхоўнага Савета і ўрада, на вашу думку, пайшоў бы на карысць вёсцы?**

— Наша партыя падтрымала ідэю рэферэндуму, бо бачыць, што цяперашні парламент не здольны правесці зямельную рэформу.

Дарэчы, мы зусім не супраць калектыўнай формы гаспадарання, калгасаў, якімі яны задумваліся. Але ж цяперашні калгас — гэта фактычна дзяржаўная гаспадарка. Мы — за тое, каб кожны селянін меў у калгасе свой зямельны і маёмасны пай. Захацеў выйсці з калгаса — маеш права атрымаць сваю долю ўласнасці.

**— Мяркуючы па мэтах і адносінах да Саюза аграрнікаў, вы менш за ўсё арыентуецеся на інтарэсы кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, у пэўным сэнсе супрацьстаіце ім?**

— Я б не казаў так катэгарычна — мы адстойваем інтарэсы ўсіх сацыяльных слаёў беларускай вёскі. У нашай партыі ёсць і старшыні калгасаў, і спецыялісты сельскай гаспадаркі, і фермеры, і кааператары, і г. д. Хоць, натуральна, нам бліжэй клопат незалежных гаспадароў. БСП вырасла з Сялянскага саюза, які аб'ядноўвае фермераў і кааператараў, якія ўжо атрымалі зямлю.

Не закрываем мы шлях у БСП і гараджанам: згодна са статутам, членам партыі можа быць любы грамадзянін Беларусі. Дарэчы, горад на сённяшні дзень зацікаўлены ў поспеху аграрнай рэформы не менш, чым вёска.

**— У вас шмат прыхільнікаў?**

— Крыху больш як 5 тысяч. Калі не памыляюся, на сённяшні дзень гэта найвышэйшы паказчык сярод наваствораных партый (за выключэннем БНФ).

**— Як вы самі вызначаеце месца партыі на палітычнай арэне рэспублікі?**

— Мы з самага пачатку заявілі аб сваёй цэнтрысцкай пазіцыі: не схіляемся ні да «правых», ні да «левых». Галоўнае для нас — інтарэсы чалавека на зямлі. А селянін ніколі не быў схільны да крайнасцей і прывык сем разоў мераць, перш чым адрэзаць.

**Гутарыў Валянцін ЖДАНКО.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# АБ КАШТОЎНЫХ ПАПЕРАХ І ФОНДАВЫХ БІРЖАХ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Любая асоба, якая набывае больш чым 5 працэнтаў агульнай колькасці размяшчаемых акцый з правам голасу, на працягу 5 дзён пасля куплі павінна паведаміць аб такім набыцці Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах, фондавым біржам, якія праводзяць аперацыі з гэтымі акцыямі, а таксама эмітэнту. Аналагічныя патрабаванні прад'яўляюцца ў выпадку набыцця дадзенай асобай кожных дадатковых 5 працэнтаў акцый дадзенага эмітэнта.

**Артыкул 35. Акцыі, якія належаць кіруючым работнікам эмітэнта**

Кіраўнікі прадпрыемства-эмітэнта (уключаючы як членаў наглядальнага савета, так і членаў адміністрацыі), якое ажыццявіла выпуск акцый шляхам адкрытага продажу, павінны паведамляць Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах, фондавым біржам, што ажыццяўляюць аперацыі з гэтымі акцыямі, а таксама Савету прадпрыемства - эмітэнта аб акцыях дадзенага прадпрыемства, якія знаходзяцца ў іх валоданні, і аб усіх сваіх здзелках з гэтымі акцыямі на працягу 5 рабочых дзён пасля заключэння здзелкі.

**Артыкул 36. Аперацыі эмітэнта з уласнымі акцыямі**

Эмітэнты павінны паведамляць аб аперацыях са сваімі ўласнымі акцыямі Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах і фондавых біржах, на якіх праводзяцца аперацыі з гэтымі акцыямі, калі аб'ём аперацый склаў больш 5 працэнтаў выпушчаных акцый.

**Артыкул 37. Прапановы аб куплі акцый, звернутыя да ўсіх акцыянераў**

Прапановы аб куплі акцый, звернутыя да ўсіх акцыянераў, уключаючы падобную прапанову з боку прадпрыемства - эмітэнта, павінны рэгулявацца правіламі, якія ўстанаўліваюцца Дзяржаўнай інспекцыяй Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах. Падобная прапанова павінна быць зроблена па адзінай для ўсіх акцыянераў цане.

**Артыкул 38. Абавязковая купля акцый**

Любая асоба, якая мае намер купіць больш 50 працэнтаў акцый прадпрыемства - эмітэнта з правам голасу, абавязана зрабіць прапанову аб скупцы ўсіх акцый дадзенага эмітэнта, звернутую да ўсіх акцыянераў.

**Артыкул 39. Забарона нядобрасумленнага выкарыстання канфідэнцыяльнай інфармацыі**

Ні адна асоба, якая з прычыны свайго службовага становішча атрымала доступ да канфідэнцыяльнай інфармацыі, што адносіцца да эмітэнта або каштоўных папер, і якая можа паўплываць на рыначную вартасць каштоўнай паперы, не можа выкарыстоўваць гэтую інфармацыю для мэт асабістай выгады або для перадачы яе трэцім асобам, а таксама не можа даваць на аснове гэтай інфармацыі парады трэцім асобам па аперацыях з каштоўнымі паперамі.

**Артыкул 40. Абмежаванні на правядзенне аперацый з каштоўнымі паперамі асоб, якія маюць доступ да канфідэнцыяльнай інфармацыі**

Грамадзяне, якія маюць доступ да канфідэнцыяльнай інфармацыі, што адносіцца да прадпрыемстваў - эмітэнтаў, а таксама члены іх сем'яў могуць набываць каштоўныя паперы гэтых эмітэнтаў толькі пры ўмове захоўвання іх у сябе тэрмінам не менш 6 месяцаў. Да такіх асоб адносяцца:

а) кіруючыя работнікі прадпрыемстваў - эмітэнтаў (уключаючы членаў наглядальнага савета і прадстаўнікоў адміністрацыі);

б) служачыя аўдытарскіх фірм, якія ажыццяўляюць праверкі дадзенага прадпрыемства-эмітэнта;

в) кіраўнікі і супрацоўнікі апарату Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах, супрацоўнікі апаратаў дзяржаўных органаў, якія прыцягваюцца да работы гэтай інспекцыяй, а таксама супрацоўнікі арганізацый, што маюць ліцэнзію на вядзенне прафесіянальнай дзейнасці па каштоўных паперах.

**Артыкул 41. Распаўсюджванне недакладнай інфармацыі з мэтай змянення курсу каштоўных папер**

Юрыдычныя асобы і грамадзяне, якія распаўсюджваюць недакладную інфармацыю аб эмітэнце з мэтай атрымання выгад ад змянення курсу яго каштоўных папер, могуць прыцягвацца да адказнасці па заявах пацярпеўшага боку з мэтай спагнання страт у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 42. Эканамічныя санкцыі за парушэнне патрабаванняў гэтага Закона**

1. Даходы, атрыманыя з парушэннем гэтага Закона, спаганяюцца ў дзяржаўны бюджэт Рэспублікі Беларусь за вылікам сум, якія падлягаюць вяртанню інвестару ў выпадку скасавання здзелкі.

2. Прафесіянальныя ўдзельнікі рынку каштоўных папер нясуць матэрыяльную адказнасць перад інвестарам за ўрон, нанесены яму заключэннем здзелак:

а) з падробленымі каштоўнымі паперамі;

б) з паперамі неіснуючых эмітэнтаў або пацвярджаючымі валоданне неіснуючымі каштоўнасцямі;

в) з паперамі, якія не прайшлі дзяржаўную рэгістрацыю;

г) з паперамі, на якія прафесіянальны ўдзельнік рынку каштоўных папер не мае прававоў валодання або распараджэння;

д) па продажу адной паперы некалькім інвестарам;

е) звязаных з іншым парушэннем гэтага Закона.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

12 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

# АБ ТАВАРНЫХ БІРЖАХ

Гэты Закон вызначае прававыя, эканамічныя і арганізацыйныя асновы дзейнасці таварных бірж і распаўсюджваецца на таварныя біржы, філіялы і прадстаўніцтвы таварных бірж, размешчаныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Закон накіраваны на развіццё дзейнасці таварных бірж па фарміраванню аптовага рынку тавараў на аснове свабоднага цэнаўтварэння і канкурэнцыі.

**Артыкул 1. Асноўныя паняцці**

Таварная біржа — гэта добраахвотнае аб'яднанне юрыдычных і (або) фізічных асоб для галосных публічных таргоў таварамі ў пэўным месцы, у вызначаны час па загадзя ўстаноўленых правілах.

Біржавы тавар — нявыключаная з абарачэння заменная маёмасць і маёмасныя правы, якія допушчаны біржай да біржавога гандлю.

Біржавая здзелка — здзелка, заключаная на біржавым сходзе ўдзельнікамі таргоў ад свайго імя або па даручэнню трэціх асоб.

Каціроўка — выяўленне цэн на тавары з улікам попыту і прапановы на пэўны тэрмін або дату ў якасці арыенціра для прадаўцоў і пакупнікоў пры заключэнні здзелак.

Біржавы брокер — удзельнік таргоў, які аказвае пасрэдніцкія паслугі па заключэнню біржавых здзелак членам біржы або кліентам за іх кошт.

Біржавы дылер — удзельнік таргоў, які ажыццяўляе біржавыя здзелкі ад свайго імя і за свой кошт.

**Артыкул 2. Прававы статус таварнай біржы**

Таварная біржа з'яўляецца юрыдычнай асобай, якая ажыццяўляе сваю дзейнасць, уключаючы знешнеэканамічную, на аснове гаспадарчай самастойнасці ў адпаведнасці з гэтым Законам, іншым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і статутам біржы.

**Артыкул 3. Асноўныя задачы і функцыі таварнай біржы**

Асноўнымі задачамі і функцыямі таварнай біржы з'яўляюцца:

стварэнне ўмоў для правядзення біржавых таргоў;

рэгістрацыя біржавых здзелак;

выяўленне попыту і прапановы тавараў:

каціроўка і яе публікацыя;

вывучэнне фактараў, якія ўплываюць на дынаміку біржавых цэн;

фарміраванне біржавой інфраструктуры.

Біржа не мае права на дзейнасць непасрэдна не звязаную з арганізацыяй і правядзеннем біржавога гандлю, а таксама не мае права ўкладаць свой капітал у небіржавыя камерцыйныя структуры.

**Артыкул 4. Члены таварнай біржы**

Член таварнай біржы — юрыдычная або фізічная асоба, якая набыла права ўдзелу ў таргах і можа распараджацца ім у парадку, што вызначаецца статутам біржы.

Членамі таварнай біржы не маюць права быць органы дзяржаўнай улады і кіравання, пракуратуры і суда, іх службовыя асобы і спецыялісты, а таксама органы грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць палітычныя мэты, і іх штатныя супрацоўнікі.

Наведвальнік таргоў — фізічная або юрыдычная асоба, якая не з'яўляецца членам біржы або яго прадстаўніком, допушчаная самастойна ажыццяўляць разавыя біржавыя здзелкі.

**Артыкул 5. Заснаванне і рэгістрацыя таварнай біржы**

Таварная біржа можа стварацца ў любой арганізацыйна-прававой форме.

Заснавальнікамі таварнай біржы могуць быць юрыдычныя і (або) фізічныя асобы. Сумарная доля замежных заснавальнікаў біржы не павінна перавышаць 25 працэнтаў.

Заснавальнікамі таварнай біржы не могуць быць органы і асобы, указаныя ў частцы другой артыкула 4 гэтага Закона.

Рэгістрацыя таварнай біржы праводзіцца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

**Артыкул 6. Статут таварнай біржы**

Таварная біржа дзейнічае на падставе статута. Статут таварнай біржы разам з патрабаваннямі, прадугледжанымі законамі Рэспублікі Беларусь, павінен вызначаць:

размер статутнага фонду біржы;

парадак прыняцця правіл біржавога гандлю;

парадак прыёму ў члены біржы, прыпынення, спынення членства;

правы і абавязкі членаў біржы;

маёмасную адказнасць біржы па абавязацельствах яе членаў і маёмасную адказнасць членаў па абавязацельствах біржы;

парадак утварэння арбітражнай камісіі і яе правы.

Статут таварнай біржы павінен забяспечваць роўныя ўмовы ўсім, хто ўдзельнічае ў біржавым торгу.

**Артыкул 7. Правы і абавязкі членаў біржы**

Члены біржы маюць права ўдзельнічаць у кіраванні біржай у парадку, які вызначаецца статутам біржы, удзельнічаць у біржавых сходах і заключаць на іх біржавыя здзелкі.

Члены біржы абавязаны:

выконваць патрабаванні статута біржы;

ажыццяўляць здзелкі і разлі[illegible] у адпаведнасці з правіламі біржавога гандлю;

не выдаваць камерцыйную тайну біржы.

**Артыкул 8. Правілы біржавога гандлю**

Правілы біржавога гандлю павінны змяшчаць:

віды біржавых здзелак;

парадак правядзення таргоў;

парадак заключэння, рэгістрацыі і афармлення біржавых здзелак;

рэгламент работы біржы;

парадак удзелу ў біржавых таргах членаў біржы і наведвальнікаў таргоў;

санкцыі за парушэнне правіл біржавога гандлю;

іншыя палажэнні, якія рэгламентуюць ажыццяўленне біржавых здзелак.

**Артыкул 9. Біржавыя здзелкі**

Прадметам біржавой здзелкі з'яўляецца заключэнне дагавора (набыццё кантракта) на пастаўку маёмасці, допушчанай біржай да біржавога гандлю, а таксама правы на яе куплю або продаж.

На таварных біржах прадметамі біржавых здзелак не маюць права быць аб'екты нерухомасці, інтэлектуальнай уласнасці, аўтарскія правы, творы мастацтва.

Біржавыя здзелкі могуць праводзіцца як з таварам, які ёсць у наяўнасці, так і таварам, які з'явіцца ў будучым (форвардныя, ф'ючэрсныя, апцыённыя і іншыя здзелкі).

Таварная біржа і яе штатныя служачыя не могуць выступаць бокам у біржавой здзелцы, якая заключаецца на яе таргах.

**Артыкул 10. Цэнаўтварэнне на біржы**

Рэалізацыя тавару на біржы праводзіцца па свабоднай цане, якая ўстанаўліваецца па пагадненню паміж бакамі біржавой здзелкі. Пры гэтым не могуць выкарыстоўвацца аукцыённыя метады ўстанаўлення цэн.

Біржам забараняецца ўстанаўліваць:

узроўні і межы цэн на тавары ў біржавым гандлі;

размеры ўзнагароджання, якое бярэцца біржавымі брокерамі за пасрэдніцтва ў біржавых здзелках, або іх межы.

**Артыкул 11. Таварная экспертыза**

Біржа па патрабаванню ўдзельніка біржавога гандлю абавязана арганізаваць экспертызу якасці тавару, рэалізаванага праз біржавыя таргі.

**Артыкул 12. Камерцыйная тайна**

Склад і аб'ём звестак, якія складаюць камерцыйную тайну біржы, парадак іх абароны вызначаюцца біржай у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Адказнасць за выдаванне звестак, якія складаюць камерцыйную тайну біржы, вызначаецца заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь і прымаемымі ў адпаведнасці з імі лакальнымі актамі біржы.

Таварная біржа не мае права распаўсюджваць інфармацыю, якая складае камерцыйную тайну ўдзельнікаў таргоў, без іх згоды. Склад і аб'ём звестак, якія складаюць камерцыйную тайну ўдзельніка таргоў, паведамляюцца ім біржы.

**Артыкул 13. Органы кіравання таварнай біржай**

Склад органаў кіравання і кантролю таварнай біржы, а таксама іх кампетэнцыя вызначаюцца статутам біржы.

Фізічныя асобы, звязаныя адносінамі ўласнасці або найму з членамі біржы, не маюць права быць штатнымі служачымі біржы.

**Артыкул 14. Адносіны брокераў і іх кліентаў**

Правы і абавязкі брокераў заключаць здзелкі ад імя сваіх кліентаў вызначаюцца заключанымі паміж імі дагаворамі даручэння або камісіі.

**Артыкул 15. Парадак вырашэння спрэчак па біржавых здзелках**

Спрэчкі па біржавых здзелках вырашаюцца арбітражнай камісіяй біржы ў адпаведнасці з правіламі біржавога гандлю. Пры нязгодзе з рашэннем арбітражнай камісіі спрэчкі разглядаюцца ў судовым парадку.

**Артыкул 16. Ліквідацыя і рэарганізацыя таварнай біржы**

Ліквідацыя і рэарганізацыя таварнай біржы ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

**Артыкул 17. Кантроль за дзейнасцю таварнай біржы**

Кантроль за дзейнасцю біржы ажыццяўляецца дзяржаўнымі органамі, на якія заканадаўствам Рэспублікі Беларусь ускладзены адпаведныя функцыі.

Узаемаадносіны таварнай біржы з бюджэтам ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Забараняецца патрабаваць ад таварнай біржы справаздачнасць, не прадугледжаную заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 18. Выкарыстанне тэрміна «біржа»**

Тэрмін «біржа» можа выкарыстоўвацца ў сваёй фірменнай назве або для мэт дзелавой або звычайнай рэкламы толькі такой юрыдычнай асобай, якая зацверджана ў парадку, вызначаным гэтым Законам або законамі аб іншых біржах.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

13 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

# АБ КАНТРОЛЬНАЙ ПАЛАЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## І. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Статус Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь**

Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь — вышэйшы орган фінансава-эканамічнага кантролю ў рэспубліцы, які ўтвараецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і дзейнічае пад яго кіраўніцтвам.

Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь ажыццяўляе кантроль за выкананнем рэспубліканскага бюджэту, за выкарыстаннем дзяржаўнай уласнасці; кантралюе выкананне законаў Рэспублікі Беларусь, пастаноў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і адпаведнасць ім іншых актаў, якія рэгулююць адносіны дзяржаўнай уласнасці, гаспадарчыя, фінансавыя і падатковыя адносіны.

Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь з'яўляецца юрыдычнай асобай і мае пячатку з выявай Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і са сваёй назвай.

Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь валодае правам заканадаўчай ініцыятывы.

**Артыкул 2. Прававыя асновы дзейнасці Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь**

Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь дзейнічае ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, гэтым Законам і іншымі заканадаўчымі актамі рэспублікі.

**Артыкул 3. Сродкі на ўтрыманне Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь**

Сродкі на ўтрыманне Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь, а таксама на аплату прыцягнутых спецыялістаў і рэвізораў выдзяляюцца непасрэдна з рэспубліканскага бюджэту. Размер гэтых сродкаў штогод устанаўліваецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь пры зацвярджэнні рэспубліканскага бюджэту.

Структура, штатная колькасць і фонд аплаты працы работнікаў Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь зацвярджаюцца яе Старшынёй у межах устаноўленых асігнаванняў.

## ІІ. СКЛАД, ПАРАДАК УТВАРЭННЯ І АРГАНІЗАЦЫЯ ДЗЕЙНАСЦІ КАНТРОЛЬНАЙ ПАЛАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 4. Склад Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь**

Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь складаецца са Старшыні Кантрольнай палаты, першага намесніка Старшыні, намеснікаў Старшыні, а таксама ўпраўленняў, аддзелаў і інспекцый.

**Артыкул 5. Старшыня Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь**

Старшыня Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь выбіраецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь тэрмінам на 5 гадоў і не можа займаць гэту пасаду больш двух тэрмінаў запар.

Старшыня Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь можа быць датэрмінова вызвалены ад пасады рашэннем Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у выпадку нездавальняючага выканання сваіх службовых абавязкаў, парушэння заканадаўства або ўчынення злоўжыванняў па службе.

Старшыня Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь прадстаўляе кандыдатуры на пасады першага намесніка і намеснікаў Старшыні Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь для зацвярджэння іх Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

У сваёй дзейнасці Старшыня Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь кіруецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і ў межах сваёй кампетэнцыі самастойна вырашае ўсе пытанні, звязаныя з ажыццяўленнем кантролю, планаваннем, правядзеннем праверак, рэвізій і абследаванняў, назначэннем службовых асоб, забяспечвае камплектаванне Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь кампетэнтнымі спецыялістамі адпаведнага профілю.

Старшыня Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь мае права ўдзельнічаць у пасяджэннях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, яго Прэзідыума і Урада Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6. Савет Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь**

Для абмеркавання пытанняў планавання і арганізацыі работы, метадалогіі кантрольнай дзейнасці, падрыхтоўкі справаздач і інфармацый Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь, яго Прэзідыуму ўтвараецца Савет Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь.

У склад Савета Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь уваходзяць па пасадзе: Старшыня палаты, яго намеснікі, начальнікі ўпраўленняў, Савет Кантрольнай палаты зацвярджаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

У выпадку выяўлення пры правядзенні праверак і рэвізій фактаў злоўжыванняў Савет Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь накіроўвае адпаведныя матэрыялы ў праваахоўныя органы або ставіць пытанне перад уласнікамі прадпрыемстваў аб прыцягненні да адказнасці службовых асоб.

Савет Кантрольнай палаты мае права рабіць грашовыя налічэнні на службовых асоб у размеры нанесенага імі дзяржаве ўрону, але не больш сумы іх трохмесячнага службовага акладу.

## ІІІ. ФУНКЦЫІ І ПАЎНАМОЦТВЫ КАНТРОЛЬНАЙ ПАЛАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 7. Функцыі Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь**

Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь:

1) кантралюе выкананне законаў Рэспублікі Беларусь, пастаноў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і адпаведнасць ім іншых актаў, якія рэгулююць адносіны дзяржаўнай уласнасці, гаспадарчыя, фінансавыя і падатковыя адносіны;

2) ажыццяўляе кантроль за своечасовасцю і паўнатой паступлення даходаў, мэтавым і эканомным расходаваннем сродкаў рэспубліканскага бюджэту, пазабюджэтных дзяржаўных фондаў; за расходамі на ўтрыманне органаў дзяржаўнай улады і кіравання, захаванасцю і выкарыстаннем дзяржаўнай маёмасці ў галінах народнай гаспадаркі, уключаючы абаронную прамысловасць, а таксама ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, у сістэме Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, органаў суда, пракуратуры і мытні; за раздзяржаўленнем і прыватызацыяй аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці; ажыццяўляе кантроль за расходаваннем сродкаў, якія выдзяляюцца з дзяржаўнага бюджэту на выкананне дзяржаўных навукова-тэхнічных праграм;

3) кантралюе работу Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь і яго органаў па выкананню рэспубліканскага бюджэту;

4) кантралюе інвестыцыйную дзейнасць органаў дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь; правярае законнасць і эфектыўнасць выкарыстання дзяржаўных рэсурсаў усімі дзяржаўнымі арганізацыямі і прадпрыемствамі, а таксама выкарыстанне матэрыяльных і грашовых сродкаў, якія накіроўваюцца дзяржавай у стварэнне і развіццё прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці;

5) ажыццяўляе кантроль за эмісійнай палітыкай, выкарыстаннем крэдытаў і валютных рэсурсаў выканаўчымі і распарадчымі органамі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь, Банкам знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь;

6) па даручэнню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго Прэзідыума праводзіць экспертную ацэнку артыкулаў праектаў рэспубліканскага бюджэту, фінансава-эканамічнай абгрунтаванасці праектаў дзяржаўных праграм і ўрадавых рашэнняў; праводзіць аналіз эканамічнага становішча ў галінах народнай гаспадаркі, стану цэнаўтварэння і ў межах сваёй кампетэнцыі выконвае іншыя заданні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго Прэзідыума;

7) ажыццяўляе кантроль за станам кантрольна-рэвізійнай работы ў міністэрствах, ведамствах і іншых органах кіравання;

8) правярае фінансава-гаспадарчую дзейнасць дзяржаўных арганізацый, прадстаўніцтваў і ўстаноў, якія дзейнічаюць за мяжой і фінансуюцца з рэспубліканскага бюджэту;

9) ажыццяўляе сувязі з кантрольнымі органамі замежных краін і адпаведнымі міжнароднымі арганізацыямі, заключае з імі пагадненні аб дзелавым супрацоўніцтве.

**Артыкул 8. Паўнамоцтвы Кантрольнай палаты**

Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь пры ажыццяўленні сваіх функцый мае права:

1) уносіць прадстаўленні ў адпаведныя органы дзяржаўнай улады і кіравання Рэспублікі Беларусь аб адмене або змяненні прынятых імі актаў, якія рэгулююць адносіны дзяржаўнай уласнасці, гаспадарчыя, фінансавыя і падатковыя адносіны ў выпадку неадпаведнасці іх законам і пастановам, прынятым Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь па дадзеных пытаннях. Пры непрыняцці па прадстаўленню мер Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь мае права накіраваць матэрыялы ў праваахоўныя органы для прыняцця рашэння ў адпаведнасці з іх кампетэнцыяй;

2) праводзіць фінансавыя рэвізіі ў апараце вышэйшых і мясцовых органаў дзяржаўнай улады і кіравання, праверкі, рэвізіі і абследаванні ў міністэрствах, ведамствах, установах, арганізацыях, на дзяржаўных прадпрыемствах;

3) атрымліваць ад дзяржаўных, камерцыйных банкаў і іншых крэдытных устаноў неабходныя для правядзення праверак звесткі аб аперацыях і стане рахункаў аб'ектаў, якія правяраюцца, а ад іншых прадпрыемстваў і арганізацый — даведкі і копіі дакументаў па аперацыях і разліках з гэтымі аб'ектамі;

4) прыцягваць да правядзення праверак, рэвізій і экспертыз кваліфікаваных спецыялістаў з іншых устаноў і арганізацый, а таксама работнікаў іншых кантрольных і праваахоўных органаў з аплатай у неабходных выпадках за кошт сродкаў Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь;

5) у межах сваёй кампетэнцыі даваць адміністрацыі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, якія правяраюцца, абавязковыя для выканання ўказанні аб ліквідацыі ва ўстаноўленыя тэрміны выяўленых парушэнняў і вяртанні ў бюджэт недаплачаных сум;

6) накіроўваць матэрыялы праверак і рэвізій у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, міністэрствы, дзяржаўныя камітэты, ведамствы Рэспублікі Беларусь і іншыя органы дзяржаўнага кіравання для разгляду і прыняцця па іх неабходных мер;

7) уносіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, а таксама ў іншыя дзяржаўныя органы прадстаўленні аб прыцягненні да адказнасці службовых асоб, вінаватых у парушэннях патрабаванняў заканадаўства, безгаспадарчасці, прычыненні матэрыяльнага ўрону дзяржаве;

8) у выпадках выяўлення пры правядзенні праверак і рэвізій фактаў крадзяжоў грашовых сродкаў і матэрыяльных каштоўнасцей, іншых злоўжыванняў перадаваць матэрыялы праверак і рэвізій у праваахоўныя органы;

9) каардынаваць дзейнасць кантрольных органаў, якія ажыццяўляюць фінансава-эканамічны кантроль у галінах народнай гаспадаркі.

**Артыкул 9. Паўнамоцтвы службовых асоб Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь**

Службовыя асобы Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь пры выкананні сваіх службовых абавязкаў маюць права:

1) знаёміцца ў поўным аб'ёме з усёй дакументацыяй, якая патрабуецца пры правядзенні праверак, рэвізій і абследаванняў;

2) бесперашкоднага доступу на склады, у сховішчы, вытворчыя і дапаможныя памяшканні і іншыя аб'екты для праверкі наяўнасці грашовых сродкаў, каштоўных папер, матэрыяльных каштоўнасцей і парадку іх захоўвання;

3) атрымліваць ад службовых асоб і іншых работнікаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый неабходныя даведкі, вусныя і пісьмовыя тлумачэнні па пытаннях, звязаных з правядзеннем праверак або рэвізій;

4) у неабходных выпадках апячатваць касы або касавыя памяшканні, склады, архівы, а пры выяўленні падробак, падлогаў і іншых злоўжыванняў забіраць неабходныя дакументы, пакідаючы ў справах акт адабрання і копіі або вопіс забраных дакументаў.

**Артыкул 10. Адказнасць службовых асоб Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь**

Службовыя асобы Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь абавязаны добрасумленна выконваць свой службовы абавязак, абараняць дзяржаўныя, агульнанародныя інтарэсы. У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам яны нясуць адказнасць за скажэнне вынікаў праводзімых праверак, якія прадстаўляюцца ў дзяржаўныя органы, і за дакладнасць інфармацыі, што даводзіцца да агульнага ведама, а таксама за выданне камерцыйнай тайны прадпрыемстваў, арганізацый і аб'яднанняў, якія правяраюцца.

**Артыкул 11. Абавязак органаў дзяржаўнай улады і кіравання садзейнічаць службовым асобам Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь у выкананні ўскладзеных на іх функцый**

Органы дзяржаўнай улады і кіравання абавязаны ўсямерна садзейнічаць службовым асобам Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь у выкананні ўскладзеных на іх функцый, аказваць ім неабходную дапамогу ў правядзенні праверак і рэвізій, забяспечваць іх жылымі і службовымі памяшканнямі, транспартам, сродкамі сувязі.

Службовыя асобы, якія перашкаджаюць чым-небудзь правядзенню праверак і рэвізій і не забяспечваюць неабходных умоў для работы супрацоўнікам Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь, а таксама не выконваюць абавязковых указанняў Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь, нясуць адказнасць ва ўстаноўленым законам парадку. Службовыя асобы абавязаны далажыць Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь аб ліквідацыі выяўленых парушэнняў.

**Артыкул 12. Парадак абскарджання рашэнняў Савета Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь**

Службовыя асобы, якія прыцягнуты да адказнасці, маюць права абскардзіць рашэнне Савета Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь у судовых органах.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

13 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

## *Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### АБ УВЯДЗЕННІ Ў ДЗЕЯННЕ ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ КАШТОЎНЫХ ПАПЕРАХ І ФОНДАВЫХ БІРЖАХ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах» з 1 чэрвеня 1992 года. Пункт 2 «б» артыкула 17 увесці ў дзеянне з 1 кастрычніка 1992 года.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць Палажэнне аб Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах, вызначыць структуру і колькасць яе апарату.

3. Стварыць да 1 мая 1992 года Дзяржаўную інспекцыю Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

да 1 мая 1992 года выдзеліць для работы Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах памяшканні і забяспечыць неабходную матэрыяльна-тэхнічную базу;

да 1 чэрвеня 1992 года прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах»;

прывесці ў адпаведнасць з дадзеным Законам пастановы і распараджэнні Урада Рэспублікі Беларусь;

забяспечыць перагляд і адмену міністэрствамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць дадзенаму Закону;

устанавіць да 1 чэрвеня 1992 года размер платы за паслугі, якія аказваюцца Дзяржаўнай інспекцыяй Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах;

арганізаваць да 1 чэрвеня 1992 года падрыхтоўку, у тым ліку і за мяжой, спецыялістаў па пытаннях дзяржаўнага рэгулявання рынку каштоўных папер.

5. Устанавіць, што:

з моманту прыняцця Закона «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах» спыняецца выпуск акцый працоўнага калектыву і акцый прадпрыемстваў (арганізацый). Усе эмітаваныя да моманту прыняцця Закона акцыі працоўнага калектыву і акцыі прадпрыемстваў (арганізацый) могуць абарачацца на працягу двух гадоў з дня прыняцця Закона ў адпаведнасці з умовамі іх выпуску. Да заканчэння ўказанага тэрміну прадпрыемствы (арганізацыі), якія выпусцілі акцыі працоўнага калектыву і (або) акцыі прадпрыемства (арганізацыі, кааператыва, банка), абавязаны па выбару трымальнікаў выкупіць іх або замяніць іншымі каштоўнымі паперамі (акцыямі, аблігацыямі), якія адпавядаюць умовам Закона;

выпуск каштоўных папер на прад'яўніка можа ажыццяўляцца пачынаючы з 1 студзеня 1994 года.

6. Эмітэнты, якія ажыццяўляюць выпуск каштоўных папер да выхаду гэтага Закона, абавязаны да 1 снежня 1992 года зарэгістраваць свае каштоўныя паперы ў Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах, у адпаведнасці з патрабаваннямі гэтага Закона, а таксама ў выпадках іх адкрытага продажу — праспекты эмісіі і справаздачы аб выніках выпуску.

Пасля 1 снежня 1992 года незарэгістраваныя каштоўныя паперы аб'яўляюцца несапраўднымі.

7. Устанавіць, што пасля 1 лютага 1993 года дзейнасць фондавых бірж і прафесіянальных удзельнікаў рынку каштоўных папер, якія не маюць адпаведных ліцэнзій, прыпыняецца да іх атрымання.

Пасля 1 лютага 1993 года спецыялісты, прафесіянальныя ўдзельнікі рынку каштоўных папер і фондавых бірж могуць ажыццяўляць аперацыі з каштоўнымі паперамі толькі пры наяўнасці кваліфікацыйнага атэстата, выдадзенага Дзяржаўнай інспекцыяй Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах.

Дзеючым фондавым біржам, прафесіянальным удзельнікам рынку каштоўных папер да 1 кастрычніка 1992 года прывесці свае ўстаноўчыя і нарматыўныя дакументы ў адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах».

Біржам, якія маюць у сваім складзе фондавыя аддзелы, аддзелы па аперацыях з каштоўнымі паперамі, да 1 ліпеня 1993 года прывесці іх дзейнасць у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

12 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

### АБ УВЯДЗЕННІ Ў ДЗЕЯННЕ ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ТАВАРНЫХ БІРЖАХ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб таварных біржах» з дня яго апублікавання.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 чэрвеня 1992 года:

прадставіць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні дзеючых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб таварных біржах»;

вырашыць пытанне аб ільготным падаткаабкладанні здзелак па сыравіне і таварах, паступіўшых з-за меж Рэспублікі Беларусь і рэалізаваных на біржах;

прывесці рашэнні Урада ў адпаведнасць з указаным Законам;

забяспечыць перагляд і адмену міністэрствамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць названаму Закону;

3. Статутны фонд таварнай біржы ўстанаўліваецца ў размеры не менш 5 млн. рублёў.

4. Біржавыя здзелкі не могуць праводзіцца з таварамі, выдзеленымі прадпрыемствам і арганізацыям у цэнтралізаваным парадку.

5. Дзеючым таварным біржам у двухмесячны тэрмін прывесці свае ўстаноўчыя і нарматыўныя дакументы ў адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб таварных біржах».

6. За дзеянні, якія перашкаджаюць дзяржаўнай рэгістрацыі, функцыяніраванню таварных бірж, на вінаватых службовых асоб накладаецца адміністрацыйны штраф ў размеры 5 тыс. рублёў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

13 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

### АБ УВЯДЗЕННІ Ў ДЗЕЯННЕ ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ КАНТРОЛЬНАЙ ПАЛАЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь» з моманту яго апублікавання.

2. Прызнаць неабходным сфарміраваць Кантрольную палату Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін, укамплектаваўшы яе высокакваліфікаванымі фінансістамі, эканамістамі, юрыстамі і іншымі спецыялістамі.

3. Ускласці фінансава-гаспадарчае абслугоўванне Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь на Сакратарыят Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прывесці ў двухмесячны тэрмін акты Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

13 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

